# РАЗВАЖАННІ АБ ЖНІВАХ І ПАДАРЫЎКАХ

Жыву я ў Бельску, але часта выязджаю да Гажова. Адлегласць 777 кіламетраў. Стараюся ехаць заўсёды днём, каб бачыць, што робіцца на полі, садзе, агародзе ці сенажаці. Такім чынам маю магчымасць назіраць з акна вагона, у якой дзяльніцы Польшчы, які ўраджай збожжа, сена, ці фруктаў.

Трэба сказаць праўду, што хаця Бельскі павет мае вельмі часта добрыя ўраджаі таго ці іншага гатунку збожжа, або добрыя рэзультаты з гадоўлі, то аднак не можа ён дараўнаць да вынікаў, якія маюцца ў павеце Гажоўскім і наогул на захадзе краю.

У нас можна назіраць доўгія, вузкія палоскі і церазпалосіцы. Там-сям выглядаюць як макаўкі асаты і густыя парасты пырэя. На захадзе пустазелля менш або зусім не відна.

Мімаволі ўзнікае пытанне, якая прычына, чаму такая розніца? Каб адказаць на гэтае пытанне трэба ведаць, што пустазелле абкрадае ў культурных раслін пажыўныя сокі, вільгаць, заценяе іх і таму галоўныя расліны не даюць такіх ураджаяў, якія маглі б даць без пустазелля.

Адна з галоўнейшых прычын распаўсюджвання сарнякоў, гэта надмерная ў плодазмене колькасць збожжа-каласавых як жыта, авёс, пшаніца, ячмень, грэчка, сэрадэля, у якіх няма звычаю знішчаць тым ці іншым спосабам пустазелле, якое дае новае насенне, а з другога боку зусім мала сеем буракоў, морквы, бруквы, рэпы, дыні, а таксама мала раслін сеем на пашу, як канюшына, люцэрна, эспарцэта і іншыя травы, якія косім на сена, а гэтым самым не дапускаем да памнажання насення пустазелля. Але самай важнай прычынай нізкіх ураджаяў і распаўсюджвання сарнякоў гэта тое, што ў нас на Беласточчыне вельмі мала робім пажніўных падарывак і мала сеем паплёнаў, якія даюць прухніцу і паляпшаюць структуру глебы. Не стасаванне падарывак бязлітасна мсціцца на ўраджаях, а значыцца і на даходах гаспадароў. Калі спытаеце селяніна, чаму не зрабіў падарыўкі або не засеяў паплёнаў, то заўсёды атрымаем адказ: няма часу, бо жніва важней і няма насення. А па думцы некаторых гаспадароў сама падарыўка не дае большай карысці. Так думае дрэнны гаспадар. Добры гаспадар заўсёды знойдзе час, на такую пільную работу як падарыўка пожні, тым больш, што гэтую работу можна зрабіць падчас непагоды. Ад гэтага ж залежыць, ці будзем мець больш хлеба, больш мяса, малака, яек. Значыцца ўжо цяпер трэба разважаць, каб адразу выканаць падарыўкі ў 100 працэнтах і даказаць, што і мы ўмеем змагацца за лепшыя ўраджаі, за лепшае жыццё.

НЕСТАР ПЕРАБОЙ
**Бельск-Падляшскі**

## Ці дзяўчаты не любяць спорту?

(Працяг са стар. 1)

— Ці дзяўчаты не любяць спорту? Не, гэтага нельга сказаць. Катора ж з нашых вясковых дзяўчын, якія хоць калі небудзь сутыкнуліся са спортам не зайздросціць Кшэсінскай, Хайнацкай, Катуўне ці іншым славутым спартсменкам нашай краіны? Вясковыя дзяўчаты любяць спорт і фізкультуру, бо нельга ж не любіць гэтага будучы здаровым, жыццерадасным чалавекам. Але вось бяда сядзіць у дзявочым спартыўным касцюмчыку. Менавіта ён з'яўляецца прычынай адсутнасці нашых вясковых прыгажунь у спартыўным жыцці.

Колькі ж яшчэ ў нас дзяўчынак, якія сароміцца паказацца ў спартыўным касцюме на спартыўнай пляцоўцы?

— Пакажуся публічна з голымі ножкамі, — думае такая, — дык возьмуць на языкі, засмяюць. На вуліцу не дадуць выйсці.

У такім меркаванні ёсць шмат праўды. У нашых вёсках яшчэ не мала цемнаты і дзікасці. Лёгка можна дастацца на язык падстарэўшых цёт - лапатух. Але дакуль жа звяртаць на іх увагу? Дакуль іх баяцца? Спорт жа гэта здароўе, прыгажосць. Спорт неабходная рэч у жыцці кожнага сучаснага маладога (ды і не толькі маладога) чалавека.

Калі нашыя дзяўчаты масава выйдуць на спартыўныя пляцоўкі, то і цёты перастануць малоць языкамі. Гэта перастане быць для іх «дзіковінкай» з якой можна пасмяяцца. А дзяўчынка ў спартыўным касцюме на вясковай спартыўнай пляцоўцы станецца зусім нармальнай з'явай так як за працай у полі, на забаве ці вечарынцы.

— Зараз, — гаворыць старшыня, павятовай рады ЛЗС, — мы арганізуем вясковыя спартакіяды. Ужо яны адбыліся ў Сабятыне, Бранску, Староўсі, Страблі, Орлі і іншых мясцовасцях.

У спартакіядах масава ўдзельнічае вясковая моладзь. Думаем, што гэтымі спартакіядамі зацікавім не малую колькасць дзяўчын, прыцягнем іх у рады нашых спартсменаў. (вб)



ЖНІВА НА БЕЛЬШЧЫНЕ.

## ТРЭБА паклапаціцца

Па ініцыятыве добраахвотнай пажарнай аховы ў Дубічах Царкоўных у мінулым годзе распачалася пабудова рэмізы разам з святліцай. Грамадскім чынам быў зроблены фундамент пад будынак. Пасля з Гайнаўкі было прывезена некалькі сотняў пустакаў і цэглаў, якія пажарнікі склалі ў «стос». І гэтыя «стосы» і цяпер стаяць.. А будаваць рэмізы разам з святліцай няма каму, хаця пажарнікі і хваліліся, што як возьмемся мы за работу, то за два месяцы будынак будзе гатоў, і на Новы год зробім забаву ў новай святліцы. І вось ужо прайшоў цэлы год ад гэтага часу, але будаваць нейк не распачынаюць. А чаму? Трудна адказаць на гэтае пытанне. Бо адны другіх вінуюць. Пажарнікі кажуць, што павятовыя ўлады на гэта сродкаў не даюць, а тыя кажуць наадварот — пажарнікі ў Дубічах заціхлі і не клапоцяцца аб пабудове рэмізы.

Хто з іх мае рацыю — невядома. Але вядома, што матэрыялаў на пабудову за мала. І трэба, каб пажарнікі, а таксама і ўсе жыхары вёскі, паклапаціліся аб дастаўцы ўсіх неабходных матэрыялаў. Бо павятовыя ўлады напэўна дадуць іх, хаця пажарнікі іх і вінуюць. Бо ў цяперашняй рэмізе, якая ўжо больш 10 год стаіць і з дошкаў зроблена і пакрыта дошкамі «вэнжы» пачалі ўжо гніць і мотапомпа іржавець пачала. Бо ў часе дажджоў цераз дах вада цячэ ў сярэдзіну, як цераз рэшата. І зза таго ўсе прылады марнуюцца. Некаторыя, вядома вельмі каштоўныя.

М. П.

# ФЕЛІКС ДЗЯРЖЫН

**(Працяг са стар. 1)**

як члена Польрэўкома і члена рэўваенсавета Заходняга фронта, ён амаль штодзень выступае на мітынгах і сходах працоўных і сялян, тлумачыць усе прынятыя Польрэўкомам меры, падрыхтоўвае і арганізуе распаўсюджванне заклікаў, выязджае на фронт у чынную армію, навучае польскіх рабочых у арміі, наладжвае працу савецкага дзяржаўнага апарата.

Успамінаючы аб супрацоўніцтве з Ф. Э. Дзяржынскім у Польрэўкоме Фелікс Кон піша:

«У тыя памятныя гістарычныя дні нястомнасць Дзяржынскага паражала ўсіх. Ён працаваў за дзесяцёх. На занятай чырвонаармейцамі тэрыторыі не было наладжанага дзяржаўнага апарата, які быў у Савецкай Расіі. Прыходзілася ўтварыць яго на хаду з вялікімі цяжкасцямі. Цяжкасці гэтыя ўзмацнялі энергію «Жалезнага Фелікса»[3]).

Фелікс Эдмундавіч без перапынку падтрымліваў пісьменную і тэлеграфную сувязь з ЦК партыі асабіста з У. І. Леніным, які нястомна сачыў за становішчам на польскім фронце, даваў каштоўныя парады Польрэўкому. У сваіх тэлеграмах і лістах на імя У. І. Леніна Дзяржынскі зрабіў глыбокі і па-ваеннаму выразны аналіз становішча на фронце і на тылах ворага. Ён дакладна паведамляў аб усіх мерапрыемствах Польрэўкома, аб грамадных цяжкасцях у працы, звяртаўся за дапамогай.

У тэлеграме У. І. Леніну ад 6 жніўня 1920 г. Дзяржынскі паведамляе, што ў Польшчы ўтвораны кааліцыйны ўрад, у якім уладу ўзяла чацвёрка заўзятых рэакцыянераў — Вітаса, Дашынскага, Сапегі, Грабскага.

У самых камандавых вышынях адбыліся наступныя перамены: Шэптыцкі пайшоў у адстаўку, а замест яго назначаны Галер»[4]). Далей у тэлеграме гаворыцца, што кампартыя Польшчы, нягледзячы на арыштаванне кіраўнікоў працягвае працаваць, агітыруючы за прыход Чырвонай Арміі і лічыць гэта актам міжнароднай салідарнасці і дапамогі польскаму пралетарыяту.

У другой тэлеграме У. І. Леніну за 15 жніўня 1920 г. Ф. Э. Дзяржынскі паведамляе аб добрых настроях беластоцкіх працоўных, аб злучэнні з беластоцкай партыйнай арганізацыяй рабочых — пэпээсаўцаў, аб падрыхтовачнай працы да выбараў Рады.[5])

17 жніўня 1920 г. у лісце У. І. Леніну Дзяржынскі паведамляе аб становішчы ў Варшаве: рабочыя і сяляне ўхіляюцца ад мабілізацыі ў войска Пілсудскага. Працоўныя масы Варшавы чакаюць прыхода Чырвонай Арміі. У вышэйшых сферах паніка і прыгнятаючы настрой. Газетныя матэрыялы аб Антанце поўныя горкай іроніі і папрокаў.

Далей Фелікс Эдмундавіч паведамляе аб забастоўцы шахцёраў у Дамброўскім басейне.[6])

17 жніўня ў Беластоку адбылася канферэнцыя сялянскіх рабочых з навакольных маёнткаў. Паведамляючы аб гэтым у ЦК РКП(б) Дзяржынскі гаворыць аб задавальняючых адносінах сялян да новай улады, аб тым, якія меры прыняты для паляпшэння да дапамогі хлебам і іншым для беластоцкіх рабочых.[7])

Па ініцыятыве Ф. Э. Дзяржынскага Польрэўком прыняў шэраг важных пастаноў. Была прынята пастанова аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і аб'яўленая свабода сумлення.

Сялянам былі зняты ўсялякія векселевыя і банкавыя задоўжанасці. Былі канфіскаваны ўсе памешчыцкія, казённыя, манастырскія і касцёльныя землі. Аднак у зямельным пытанні Польрэўкомам былі дапушчаны і сур'ёзныя памылкі.

Калі У. І. Ленін даведаўся, што ў Седлецкай губерні малазямельныя сяляне пачалі займаць памешчыцкія маёнткі, выслаў спецыяльную тэлеграму на рукі Ф. Э. Дзяржынскаму, у якой рэкамендаваў выдаць асобную пастанову польскага рэўкома і абавязкова даць частку памешчыцкіх земляў сялянам і, што бы там ні стала, памірыць сялян малазямельных з батракамі.

Аднак большасць членаў Польрэўкома наперакор настойлівым патрабаванням Дзяржынскага не згадзілася тады на неадкладнае надзяленне беззямельных і малазямельных сялян зямлёю.

Канфіскаваная зямля была перададзена камітэтам сялянскіх рабочых для арганізавання на ёй гасхозаў.

Польрэўком дапускаў і другія памылкі па зямельнаму пытанню.

Ён пастанавіў абярнуць у народную ўласнасць сялянскія зямельныя ўчасткі, якія перавышалі 20 гектараў.

Было забаронена ўстанаўліваць сервітутныя правы сялян (г. зн. права на карыстанне супольнымі пасбішчамі, лясамі, вадапоямі — А. Х.), у свой час ліквідаваныя памешчыкамі. Зразумела, гэтыя памылкі Польрэўкома адмоўна ўплывалі на адносіны вядомай часткі сялян да новай улады.

Ф. Э. Дзяржынскі непарыўна падтрымліваў сувязі са штабам Заходняга фронта, які знаходзіўся ў Мінску. У сваіх тэлеграмах у штаб фронта і на рукі тав. Іосіфа Уншліхта, які знаходзіўся ў той час у Мінску, Дзяржынскі просіць неадкладна прыслаць вельмі патрэбных да працы польскіх таварышаў, гаворыць аб узмацненні работы сярод палонных польскіх салдат.

Тымчасам ваенныя абставіны на фронце сталі ўскладняцца ўсё больш некарысна для савецкага

